# Голас Радзімы

№ 12 (2154)
22 сакавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Ахова здароўя дзяцей для Беларусі сёння — адна з самых актуальных праблем. Абумовіла гэта чарнобыльская бяда, але не ў меншай ступені і агульны стан нашай медыцыны, у тым ліку дзіцячай. А дзіцячыя хваробы, звязаныя з імі пакуты раняць куды вастрэй. Міласэрнасць, спагада, дабрыня патрабуюцца ад медыкаў кожную хвіліну кожнаму пацыенту. Але глядзець у пакутуючыя дзіцячыя вочы нясцерпна цяжка. Тады доктар адчувае сябе адзінай надзеяй маленькага хворага і яго бацькоў. Менавіта так ставіцца да сваіх пацыентаў вопытны дзіцячы хірург, аўтар многіх унікальных вынаходстваў, прафесар Уладзімір Кацько. Ён працуе ў Рэспубліканскім дзіцячым хірургічным цэнтры ў Мінску. Яго высокі прафесіяналізм, інтуіцыя, творчы падыход да сваёй справы выратавалі сотні хворых хлопчыкаў і дзяўчынак ад цяжкай хваробы, вярнулі іх у бесклапотны свет дзяцінства.

НА ЗДЫМКАХ: урач аддзялення рэанімацыі Рэспубліканскага дзіцячага хірургічнага цэнтра А. ВЕЧАР; высокае прафесійнае ўменне, сапраўднае мацярынскае цяпло ўносіць у сваю работу — догляд хворых дзяцей медсястра Наталля ШЫШЛО; прафесар У. КАЦЬКО; за ходам аперацыі ў хірургічным цэнтры назіраюць будучыя медыкі — студэнты медінстытута.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.







ЦАРКВА І ДЗЯРЖАВА Ў ЧАС ПЕРАБУДОВЫ

(«Ці ўбачым апошняга папа!»)

Стар. 3, 4

ПРАЦЯГВАЕМ ДРУКАВАЦЬ НАТАТКІ ПРА «РУССКИЙ ГОЛОС»

(«Грядет век культуры»)

Стар. 5

ІМЁНЫ, НЕВЯДОМЫЯ РАНЕЙ ШЫРОКАЙ ПУБЛІЦЫ

(«Спатканне праз паўстагоддзя»)

Стар. 6

# ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ СССР ПРЫВЕДЗЕНЫ ДА ПРЫСЯГІ

У Маскве прайшоў нечарговы трэці З'езд народных дэпутатаў СССР. На ім былі ўнесены шэраг змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю СССР, прыняты закон аб прэзідэнцтве ў СССР.

На З'ездзе першым Прэзідэнтам СССР выбраны Міхаіл Гарбачоў. Аб гэтым было аб'яўлена раніцай 15 сакавіка. Былі абвешчаны таксама вынікі праведзенага напярэдадні вечарам тайнага галасавання. Агульная колькасць народных дэпутатаў Саюза ССР—2 245. Колькасць народных дэпутатаў СССР, якія атрымалі выбарчыя бюлетэні пры галасаванні—2 000. Пры адкрыцці выбарчых скрынак было выяўлена 1 878 бюлетэняў. Пры падліку галасоў несапраўднымі прызнаны 54 бюлетэні.

Пададзеныя галасы размеркаваліся наступным чынам: за кандыдата — 1 329, супраць — 495 галасоў.

Адказваючы на пытанне аднаго з дэпутатаў, старшыня камісіі растлумачыў, што за кандыдатуру М. Гарбачова было пададзена 59,2 працэнта галасоў ад спісачнага саставу З'езду, або 66,45 працэнта галасоў, атрымаўшых бюлетэні дэпутатаў, або 70,74 працэнта галасоў прыняўшых удзел у галасаванні. Апошнія дзве лічбы — даведачныя. Першая з'яўляецца афіцыяльнай.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР Прэзідэнт прынёс на зацверджанай З'ездам Канстытуцыі СССР прысягу: «Урачыста клянуся верна служыць народам нашай краіны, строга прытрымлівацца Канстытуцыі СССР, гарантаваць правы і свабоды грамадзян, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі Прэзідэнта СССР». Пасля гэтага Прэзідэнт выступіў з прамовай, у якой закрануў найбольш актуальныя моманты ўнутранай і знешняй палітыкі СССР. Ён, у прыватнасці, сказаў:

— З «халоднай вайной» пакончана, але ваеннае процістаянне яшчэ не пераадолена. Таму пры безумоўным прыярытэце палітычных метадаў забеспячэння бяспекі, у дзейнасці Прэзідэнта абавязковым кампанентам павінна быць таксама і кіраўніцтва абароннай палітыкай краіны на прынцыпах разумнай дастатковасці і новай ваеннай дактрыны, клопаты аб Узброеных Сілах СССР. Іншы падыход непрымальны. І я ўжо як Прэзідэнт хачу вас запэўніць, што так і будзе.

Цяпер нам патрэбна глыбокая ваенная рэформа. Тут прыйдзецца вырашаць вялікі комплекс няпростых пытанняў, і гэта стане адным з важных клопатаў Прэзідэнта, прэзідэнцкага савета, зразумела, у супрацоўніцтве з Вярхоўным Саветам СССР. Карыстаючыся выпадкам, хачу пацвердзіць сваю прыхільнасць да зацверджанага З'ездам народных дэпутатаў прынцыпу: катэгарычна і назаўсёды выключаецца прымяненне Узброеных Сіл за межамі краіны без санкцый Вярхоўнага Савета або З'езда. За адным выключэннем — у выпадку раптоўнага нападу звонку.

Што трэба будзе зрабіць у знешнепалітычнай сферы на бліжэйшы час? Адно з галоўных—гэта энергічны рух наперад перагаворнага працэсу па ўсіх асноўных відах узбраенняў з мэтай дасягнення істотных вынікаў пажаданы ўжо ў гэтым годзе.

Да сустрэчы з прэзідэнтам Бушам у Вашынгтоне рыхтуюцца буйныя рашэнні, якія будуць азначаць не толькі новы крок у паляпшэнні савецка-амерыканскіх адносін, але і стануць важным укладам нашых дзвюх дзяржаў у замацаванне пазітыўных тэндэнцый сусветнай палітыкі. Ва Усходняй Еўропе ва ўсіх шасці саюзных нам краінах адбыліся змяненні гістарычнага значэння. Будуючы з імі адносіны на прынцыпах поўнага раўнапраўя і свабоды выбару, выключаючы з іх тое, што несумяшчальнае з новым мысленнем, важна захаваць і ўсё каштоўнае, сапраўды прагрэсіўнае, што набыта за дзесяцігоддзі цесных сувязей.

Асобае месца займае германскае пытанне. Яно цяпер у цэнтры еўрапейскай палітыкі. У гэтыя дні мне не раз даводзілася выкладаць нашу пазіцыю. Яна добра вядома і нашаму народу, і ўсім зацікаўленым бакам. Сутнасць яе ў тым, каб ажыццяўленне немцамі свайго натуральнага права на адзінства поўнасцю і назаўсёды выключала б небяспеку вайны з тэрыторыі Германіі. Адсюль ўсё астатняе — і правы чатырох дзяржаў, і непахіснасць граніц, і сувязь з агульнаеўрапейскім працэсам, і непрымальнасць знаходжання Германіі ў НАТО, і неабходнасць мірнага дагавора па выніках другой сусветнай вайны.

Імклівы ход міжнародных падзей надае новае значэнне агульнаеўрапейскай сустрэчы ў вярхах з удзелам ЗША і Канады восенню гэтага года. Пара думаць аб замене блокавай сістэмы калектыўнымі органамі бяспекі, узаемадзеяння і супрацоўніцтва — з улікам узнікнення ў цэнтры Еўропы аб'яднанай Германіі. Увогуле цяпер патрэбна арыентацыя на «Хельсінкі-два», якая можа стаць водападзелам дзвюх эпох у гісторыі міжнародных адносін.

З радам аўтарытэтных краін падпісаны сумесныя заявы і дзесяткі пагадненняў па розных галінах супрацоўніцтва. Вернасць ім ва ўмовах узаемнасці — адзін з важнейшых фактараў стабільнасці, бяспекі і прагрэсу, а ў Еўропе — рэальнага руху да «агульнаеўрапейскага дома», з якім мы сябе трывала звязалі.

## НОВЫ ТВОРЧЫ САЮЗ



**У Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд Саюза фотамастакоў Беларусі. Гэта новая грамадская арганізацыя, якая аб'ядноўвае майстроў светапісу, тэарэтыкаў, гісторыкаў і крытыкаў фотамастацтва, мае на мэце стварэнне базы для развіцця мастацкай фатаграфіі, павышэння яе культурнай і сацыяльнай значнасці. Створаны творчы Саюз бачыць сваё прызначэнне ў фарміраванні і развіцці нацыянальнай фатаграфічнай школы. Ён будзе займацца выставачнай, выдавецкай і музейнай дзейнасцю, садзейнічаць развіццю творчых і дзелавых кантактаў з іншымі саюзамі ў краіне і за мяжой, клапаціцца аб выхаванні фотамайстроў.**

**НА ЗДЫМКУ: дэлегаты ўстаноўчага з'езда Саюза фотамастакоў Беларусі (злева направа) Аляксей ШАЎНІН з Слоніма, Уладзімір ЯНЦЭВІЧ з Ліды і магіляўчанін Зіновій ШЭГЕЛЬМАН.**

## САДЗЕЙНІЧАННЕ ААН

### ПАСЯДЖЭННЕ Ў МІНСКУ

**На пасяджэнні бюро праўлення Асацыяцыі садзейнічання ААН Беларускай ССР, якое адбылося ў Мінску, абмяркоўвалася дзейнасць некалькіх секцый. Адзначана, што іх планы канкрэтныя і адпавядаюць патрабам сённяшняга дня. У пісьме намесніка генеральнага сакратара ААН па пытаннях грамадскай інфармацыі Т. Пакс-Севіны, якая вітала стварэнне ў Беларусі Асацыяцыі садзейнічання ААН, выказана падтрымка яе мэтам і задачам.**

## У АН БССР

### ТРЫВОЖЫЦЬ ЛЁС НАВУКІ

**Вынікі развіцця беларускай навукі ў мінулым годзе, яе надзённыя задачы абмеркаваны на сесіі агульнага сходу Акадэміі навук БССР, якая прайшла ў Мінску. Па словах галоўнага вучонага сакратара прэзідыума Акадэміі навук Беларусі акадэміка АН БССР А. Ганчарэнкі, найбольшая ўвага была ўдзелена тром пытанням: праблеме ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, абнаўленню і далейшаму развіццю АН БССР і фінансаванню навукі ва ўмовах рэспубліканскага самакіравання.**

**Пазіцыя беларускіх вучоных па чарнобыльскаму пытанню ясная, яна пакладзена ў аснову Дзяржаўнай праграмы БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі. Але, як адзначалася на сесіі, вельмі часта думка і дзеянні іх скажаліся. Таму А. Ганчарэнка напомніў, што новы састаў прэзідыума АН БССР, выбраны ў сакавіку 1987 года, практычна адразу рашуча заняўся гэтай праблемай. Ужо ў маі 1987 года была накіравана ў дырэктыўныя органы рэспублікі адпаведная запіска. Але не заўсёды беларускія вучоныя знаходзілі разуменне і падтрымку, асабліва з боку Акадэміі медыцынскіх навук СССР і Міністэрства аховы здароўя СССР. Падтрымалі іх вучоныя АН БССР і многія спецыялісты за мяжой.**

**Агульны сход АН БССР унёс прапанову ў Савет Міністраў рэспублікі аб стварэнні Беларускага нацыянальнага камітэта па радыяцыйнай ахове, які будзе садзейнічаць каардынацыі работ па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**У акадэміі шмат што зроблена па ўдасканаленню тэматыкі навуковых даследаванняў, дэмакратызацыі і публічнасці ў жыцці навуковых калектываў. Аднак жыццё патрабуе далейшага абнаўлення. Неабходна ўдасканаленне статута АН БССР, некаторых палажэнняў і форм узаемадзеяння Акадэміі навук з кіруючымі органамі і грамадскімі арганізацыямі, перагляд структуры навуковых устаноў. Таму сход выбраў спецыяльную камісію па выпрацоўцы канцэпцыі абнаўлення і далейшага развіцця АН БССР пад старшынствам прэзідэнта АН БССР акадэміка У. Платонава.**

**З пераходам рэспублікі на самакіраванне востра паўстае пытанне аб крыніцах, аб'ёмах і прынцыпах фінансавання фундаментальных даследаванняў. На сходзе адзначалася, што па розных прычынах у рэспубліцы склалася крайне неспрыяльная сітуацыя з фінансаваннем навукі. Урад рэспублікі далёка недастаткова фінансуе навуковыя даследаванні. Напрыклад, доля базавага бюджэтнага фінансавання АН БССР у нацыянальным даходзе складае ўсяго 0,16 працэнта. Гэта ў два з лішнім разы ніжэй за саюзны ўзровень.**

## УЗАЕМАДАПАМОГА

### ГАДУЕМ ДЗЯЦЕЙ ДЛЯ МІРУ

**У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі сустрэліся выхавальнікі дзіцячых садоў з Заходняга Берліна і Мінска.**

**— Мы прыехалі ў Беларусь з місіяй пакаяння за ўчыненае ў вас фашыстамі ў гады другой сусветнай вайны,— сказаў кіраўнік дэлегацыі Заходняга Берліна Дэтлеф Штаклас.— Час лепшы настаўнік, і людзі ўсвядомілі, нарэшце, што толькі ўзаемаразуменне і павага інтарэсаў адзін аднаго — шлях да выжывання і прагрэсу. Сёння разбурается Берлінская сцяна, і яе руіны — сімвал новага часу, калі сціраюцца межы недавер'я і варожасці паміж народамі Еўропы. Нам неабходна выхоўваць дзяцей на ідэалах дабра і міру. Мы прыехалі да вас і з дабрачыннай місіяй. Беларускім дзецям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, мы павінны перадаць ад імя евангелічнай суполкі заходнеберлінскага раёна Штэгліц партыю антыбіётыкаў і вітамінаў. Але гэта толькі пачатак. Хацелася б аказваць дапамогу больш прадметную. Для гэтага трэба ведаць вашы патрэбнасці.**

**Нашы зарубежныя суайчыннікі накіравалі ў пацярпеўшыя раёны Магілёўскай вобласці 16 скрынак медыкаментаў і 7 тысяч аднаразовых шпрыцаў. Паступілі валютныя сродкі ў Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля з Бельгіі, ФРГ, ЗША.**

## КАЛГАСНАЕ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА





**Цэх па пашыву і рамонту абутку адкрыты ў славутым калгасе «Рассвет» імя Кірылы Арлоўскага, што на Магілёўшчыне. Зразумела, не ад добрага жыцця ўзяліся земляробы за гэтую нязвыклую для іх справу, але пакуль існуе ў краіне дэфіцыт абутку, вырашылі дапамагчы справіцца з праблемай. Былую калгасную кантору пераабсталявалі пад цэх, закупілі на абутковых фабрыках спісанае абсталяване, капітальна яго адрамантавалі, падабралі майстроў. Цяпер кожны жыхар сяла можа заказаць тут любы абутак, адрамантаваць стары.**

**Калгас «Рассвет» — буйная, шматгаліновая гаспадарка. Падсобныя промыслы з'яўляюцца састаўной часткай яе эканомікі. Тут паспяхова працуюць цэхі: каўбасны, кандытарскі, кансервавы, па разліву ўласнай мінеральнай вады, вырабу скур і футра, швейны, па выпуску будаўнічых матэрыялаў, а таксама заводы — малочны, цагельны, асфальтавы. Развіццё гэтых галін дазваляе забяспечваць работай усіх працаўнікоў сяла круглы год, а ў пікавы сезон уборкі ўраджаю, збору гародніны, ягад і пладоў у садах — абыходзіцца сваімі сіламі, без традыцыйнай дапамогі гараджан. Амаль усе гэтыя вытворчыя падраздзяленні прыбытковыя.**

**НА ЗДЫМКАХ: вось такія жаночыя паўбоцікі можна пашыць у «Рассвеце». Іх дэманструе мясцовая жыхарка Аня БЯЛЯЎСКАЯ; усімі сумежнымі аперацыямі па пашыву абутку валодае Анатоль ЦІШКОЎ.**

## ПАЗІЦЫЯ ЎЛАДЫ: АДДАЦЬ ЦАРКВЕ АДАБРАНАЕ

# ЦІ ЎБАЧЫМ АПОШНЯГА ПАПА?

### ГУТАРКА З УПАЎНАВАЖАНЫМ САВЕТА ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ Аляксеем ЖЫЛЬСКІМ

У Беларусі сёння дзейнічае 9 рэлігійных канфесій. Найбольш распаўсюджаныя — праваслаўная і каталіцкая цэрквы; ёсць стараабрадцы, іудзеі, мусульмане, ёсць баптысты і пяцідзесятнікі. Савет па справах рэлігій, нібы той трацейскі суд, рэгулюе адносіны паміж дзяржавай і царквой, паміж уладай і веруючымі.

Аляксей ЖЫЛЬСКІ на месцы ўпаўнаважанага Савета нядаўна — прыйшоў сюды ў 1989 годзе. Чалавек спакойны, разважлівы, мне здаецца, справядлівы. Чалавек, не скаваны дагматычнымі прынцыпамі, што рэлігія — гэта толькі опіум для народа, як мне падалося, смелы ў сваіх меркаваннях.

Аляксей Іванавіч толькі што вярнуўся з Вілейкі, дзе ўладжваў чарговы канфлікт. На касцёл, які некалі быў зачынены, а два гады назад гарадскія ўлады перарабілі яго на канцэртную залу, заявіла прэтэнзіі нядаўна ўзнікшая каталіцкая суполка. Ламалі галаву доўга. Правялі нават апытанне сярод жыхароў — абсалютная большасць за тое, каб мець сваю канцэртна-выставачную залу. Відаць, гэта адпавядае рэчаіснасці, бо каталіцкая грамада невялічкая — усяго 30 чалавек. Але і іх патрабаванні не адкінеш. Упаўнаважаны бачыць выйсце ў разумным кампрамісе зрабіць у Вілейцы грамадска-рэлігійны цэнтр. Гэта задаволіла б інтарэсы ўцягнутых у канфлікт. Але такую прапанову веруючыя пакуль што сустракаюць у штыкі. А між іншым, на Захадзе грамадска-рэлігійныя цэнтры — з'ява пашыраная. Ды што нам той Захад: у нас веруючыя да такога ўзроўню сучаснага мыслення пакуль не дараслі. Ім аддай касцёл — і ўсё тут. Тупіковая сітуацыя?

— Сітуацыя не з простых, але ж будзем неяк раіцца, дамаўляцца, разам знойдзем выйсце, — без гарачкі, спакойна зрабіў выснову ўпаўнаважаны.

— Аляксей Іванавіч, калі я быў у гэтым кабінеце апошні раз тры гады назад, ваш папярэднік (а тады толькі пачынаўся рух за рэгістрацыю рэлігійных таварыстваў, вяртанне храмаў веруючым) на маё пытанне: што будзеце рабіць? — адказаў цвёрда: трымацца да апошняга і не здаваць пазіцый рэлігійным суполкам. Вы, я бачу, глядзіце на гэту праблему зусім не так.

— Думаю, што не павінна быць пазіцый — не ўступаць! Сёння проста іншы час, ад таго адрозніваецца, як ноч і дзень. Мы павінны бачыць наша жыццё такім, як яно склалася і якое ёсць. А яно такое, што разам з намі, побач з намі многа людзей веруючых, набожных. Яны маюць свае перакананні, і гэтыя перакананні трэба паважаць, прынамсі, быць да іх талерантнымі. Гэта ж не праціўнікі нашы, а такія ж грамадзяне, як і мы. І мая асабістая пазіцыя такая, што мы павінны падыходзіць з адной меркай: задавальняць законныя патрабаванні гэтых людзей, іх інтарэсы. Яны ж павінны мець магчымасць рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права.

— Мы выстаўлялі сябе перад усім светам краінай ледзь ці не суцэльнага атэізму. Некалі Мікіта Хрушчоў нават заявіў, што ў 1980 годзе ён пакажа нам па тэлебачанні апошняга савецкага папа. І раптам — такі рэлігійны рэнесанс! Як вы лічыце, чаму ў нас так многа веруючых?

— Справа, на мой погляд, у тым, што мы бачылі ў грамадстве тое, што хацелася, а не тое, што мелася. У часы, калі рэлігійныя перакананні... не тое, што праследаваліс

— Не ўхваляліся...

— Так, не ўхваляліся... Дык вось, калі людзі не маглі свабодна выказваць свае перакананні, а хавалі іх, мы лічылі, што ў нас веруючых няма. амаль што няма.

— Але ж мы ведаем, што тыя часы нават камуністы прымалі шлюб, хрысцілі сваіх дзяцей.

— Гэта так, але ж рабілася ўсё ў глыбокай тайне, каб чужое вока не бачыла. І зноў жа — гэта забаранялася.

— Мне здаецца глыбока абразлівым і несправядлівым, калі камуніст, савецкі работнік, выконваючы апошнюю волю бацькі, хаваў яго з крыжам і папом, а потым за гэта яго выключалі з партыі, знімалі з пасады.

— Пагаджаюся цалкам. Я лічу, што самае недарэчнае ва ўсім гэтым: людзі не мелі магчымасці свабодна выказваць свае перакананні, выконваць традыцыйныя абрады, а мы лічылі, што веруючых у нас амаль што не засталося. А цяпер, калі людзі адчулі свабоду, калі перасталі ўтойваць, што яны веруючыя, мы бачым, што рэлігія выжыла. І не проста выжыла: у народзе дзесяцігоддзямі накаплівалася духоўная энергія, каб у спрыяльны час выплеснуцца на паверхню грамадскага жыцця.

Але гэта, думаю, толькі адзін бок з'явы. Другі я бачу ў тым, што сёння царква займаецца многімі праблемамі, якія хвалююць усю краіну. Вазьміце такія сферы, як міратворчасць, гуманізацыя нашага грамадства — дабрачыннасць, міласэрнасць, — ва ўсіх гэтых працэсах мацнее роля царквы.

— Аляксей Іванавіч, мы помнім недалёкі час, калі аздараўленне маралі, адраджэнне духоўнасці грамадства ніякім чынам не звязвалася з царквой. Сёння ў мяне складваецца такое ўражанне, што ўсе нашы надзеі толькі на царкву...

— Не, я не думаю, што мы павінны спадзявацца толькі на царкву. Вядома, маючы тысячагадовы вопыт рэлігійна-маральнага выхавання, царква можа ўнесці свой уклад. Але мяркую, што гэта праблема найперш такіх ячэек грамадства, як сям'я, школа, розныя аб'яднанні і арганізацыі. Карацей кажучы, ад духоўнай немачы мы можам вылечыць самі сябе як грамадства ў цэлым, прыклаўшы агульныя намаганні.

...Хачу вярнуцца да праблемы рэлігійнага ўсплёску. Адна з найгалоўнейшых прычын гэтага — крушэнне многіх нашых ідэалаў, тых догм...

— ...якія выдаваліся за ідэалы.

— Вось іменна. Іх крушэнне стварыла спрыяльную глебу для такога ўсплёску.

— Дарэчы, чым вы тлумачыце той факт, што ўжо ў 60-я гады многія цэрквы, касцёлы, мячэці, якія перажывалі страшныя 30—40-я гады, раптам пачалі зачыняцца ўладамі? Ці не тым хрушчоўскім заклінаннем: «У камунізм царкву мы з сабой не возьмем»?

— Мяркую так: тут была спроба падагнаць жыццё пад тэарэтычныя догмы. Намалявалі карціну, якім павінна быць грамадства ў бліжэйшай будучыні: цяперашняе пакаленне людзей павінна жыць пры камунізме. Ну, а як сумясціць рэлігію з камунізмам?

— Калі ўжо браць па аналогіі сферу эканомікі, дык гэта нагадвае мне валюнтарысцкае хрушчоўскае рашэнне пазбавіць селяніна яго кароўкі.

— Гэта адна і тая ж палітыка, дзякуючы якой мы адвучылі селяніна працаваць на зямлі, быць яе гаспадаром. А чаго мы дамагліся, бачым цяпер...

— Аляксей Іванавіч! Калі гаварыць пра дзень сённяшні, то што дала царкве ўлада? А было б слушна паставіць пытанне так: што аддала ўлада царкве з таго, што было забрана?

— Самае, на мой погляд, важнае: перабудова праявіла паважлівае стаўленне ўлады да царквы. Прыкметны паварот у адносінах дзяржава — царква адбыўся пасля сустрэчы Міхаіла Гарбачова з патрыярхам усяе Русі Піме[illegible] і членамі Сінода з нагод[illegible] 1000-годдзя ўвядзення хрыс[illegible]янства на Русі. Наш лідэр тады выказаў думку, што перабудова датычыць усіх, у тым ліку і царквы, што веруючыя — гэта нашы грамадзяне, савецкія людзі, такія ж патрыёт[illegible] як і ўсе, і яны маюць пр[illegible] астойна выказваць свае пе[illegible]кананні. Вось такі падыход потым пачаў укараняцца ў свядомасці іншых і паўсюль сталі мяняцца адносіны мясцовых улад да веруючых.

Калі ўзяць нашу Беларусь, дык тут за 2—3 апошнія гады зарэгістравана па просьбах веруючых 181 рэлігійная суполка.



Ім перададзена ў бясплатнае карыстанне 144 будынкі. Прычым, калі ў 1988 годзе было зарэгістравана ўсяго 49 суполак, то летась ужо 132. Адроджана духоўная семінарыя праваслаўная ў Жыровіцах, адноўлены праваслаўныя епархіі, створана каталіцкая, і Ватыкан ужо прызначыў біскупа на Беларусь. Евангелісцкія хрысціяне-баптысты цяпер маюць сваю прэсвітэрскую Раду, пяцідзесятнікі летась стварылі рэспубліканскую, абласныя і міжабласныя рады. Растуць сувязі нашых канфесій з зарубежнымі рэлігійнымі арганізацыямі.

Гэта канспектыўна пра тое новае, што сведчыць пра нармалізацыю адносін паміж дзяржавай і царквой.

— А праблемы?

— Праблемы ёсць. Выдзеліў бы самую складаную — вяртанне храмаў веруючым. Нагадаю яшчэ раз: суполак зарэгістравана 181, а культавых збудаванняў вернута толькі 144. Некаторыя суполкі ўзніклі там, дзе цэркваў раней не было, — такім дазволена будаваць новыя. Другая праблема: па існуючаму заканадаўству і па дэкрэту, падпісанаму Леніным 20 студзеня 1918 года, усе царкоўныя будынкі, маёмасць з'яўляюцца ўласнасцю дзяржавы, усенародным набыткам, які перадаецца веруючым мясцовымі органамі ўлады ў бясплатнае карыстанне, на аснове дагавора. Але ж у тыя гады, калі мы хутка імкнуліся пазбавіцца ад «апошняга папа», рэлігійныя таварыствы здымаліся з рэгістрацыі, культавыя пабудовы за-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

---

## *НОВАЯ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ НА ВЁСЦЫ*

# ПАСЛУГІ ПРАПАНУЕ КАЛГАСНЫ АРХІТЭКТАР

Ужо неаднойчы на практыцы пацверджана: навакольная прыгажосць, зручнае і ўтульнае асяроддзе пражывання, магчымасць культурна і змястоўна адпачыць і як вынік—адчуваць сябе ў добрым настроі з'яўляецца важкім матывам, каб працаваць добрасумленна, з поўнай аддачай. Так лічыць і І. Жукоўскі, першы калгасны архітэктар у Мядзельскім раёне. А ўсяго іх у Мінскай вобласці 16 на 522 калгасы і саўгасы. Мала пакуль.

Да пераходу ў гаспадарку Іван Іванавіч шмат гадоў працаваў галоўным архітэктарам Мядзельскага раёна, асабіста курыраваў калгас «Шлях да камунізму». І ўвесь гэты час яму вельмі імпанавала імкненне калгаснага старшыні А. Стомы зрабіць працу і быт вяскоўцаў больш лёгкімі і прывабнымі. Радавала, што не шкадаваў старшыня на гэта грошай. Напрыклад, дзякуючы намаганням Антона Аляксеевіча, цяпер 27 даярак фермы «Занарач» карыстаюцца даволі шырокім наборам паслуг: пакоем адпачынку, лазняй, магазінам, пральняй, аптэчным і бібліятэчным пунктамі. Ёсць пры ферме зубны кабінет, пакоі для прыняцця лячэбных водных ваннаў і фізіяпрацэдур.

Безумоўна, у калгаса ёсць добрыя фінансавыя магчымасці для рэалізацыі смелых задумак па сацыяльнаму пераўтварэнню вёскі, планаў і праектаў архітэктара Жукоўскага (хоць працэс стагнацыі, які ўвогуле ахапіў нашу эканоміку, у апошняе дзесяцігоддзе закрануў і «Шлях да камунізму»). Справа ў тым, што калгас значна раней за іншыя гаспадаркі Мядзельшчыны дасягнуў мяжы ў сваім развіцці па экстэнсіўнаму шляху і, натуральна, з часам пачаў таптацца на месцы. З'ява гэта ўвогуле заканамерная, але яна ўстрывожыла праўленне калгаса. Само жыццё падказвала збочыць з наезджанай каляіны, якая доўгі час надзейна прыводзіла да пэўнага поспеху. Таму, бадай, першым у раёне «Шлях да камунізму» сур'ёзна заняўся вывучэннем пераходу на арэнду. Задача гэта была больш складанай, чым уяўлялася напачатку.

Аднак не менш сур'ёзнай перашкодай для ўкаранення новага з'явілася псіхалогія людзей, якія ў перыяд застою ва ўмовах адчужанасці чалавека ад зямлі, вынікаў працы на ёй страцілі многія ўласцівасці гаспадара — ашчаднага і прадбачлівага, а ўсё больш заражаліся абыякавасцю, спажывецтвам, утрыманствам.

— Паводле нашых разлікаў, арэнда павінна была змяніць адносіны да калгаснай маёмасці, рэзка павысіць зацікаўленасць у канчатковым выніку працы ўсяго калектыву. Інакш кажучы, каб механізатар адчуваў сябе гаспадаром на ферме, перажываў за стан спраў на ёй, як на ўласным падворку. А даярка адчувала б у сваю чаргу адказнасць за справы земляробаў. На жаль, гэтага пакуль яшчэ няма, — гаворыць Антон Стома.

Арэнду як шлях да ўсталявання прынцыпова новага механізма гасразліковага гаспадарання ў калгасе вырашылі ўкараняць паступова, як гаворыцца, без кавалерыйскіх наскокаў, у прыватнасці, і праз унутрыгаспадарчую кааперацыю. З пачатку года выдзелілі ў асобныя кааператывы жывёлагадоўлю і паляводства. Узаемаадносіны паміж імі і падраздзяленнямі, праўленнем калгаса будуюцца на прынцыпе арэнды. Выкананне заключанага дагавора цяжка даецца абодвум бакам. Праўленню ў сённяшняй сітуацыі зусім няпроста ў тэрмін забяспечыць усім неабходным арандатараў. Апошнім даводзіцца прыкладаць велізарныя намаганні, каб без халтуры, браку, дакладна вытрымліваючы тэхналогію, выконваць адпаведны аб'ём работ.

Таму і ўзнікае пытанне: ці не зрабіў памылку архітэктар Жукоўскі? Ці не паспяшаўся ён у пераломны для гаспадаркі час перайсці туды на работу? А калі раптам не пойдзе арэнда, і калгас апынецца ў разрадзе стратных, што тады, зноў у раён пераязджаць?

Жукоўскі на гэтыя пытанні адказвае аптымістычна:

— Пазбегнуць гэтага дапаможа таксама і архітэктура. І тое, што ў штатным раскладзе ёсць цяпер архітэктар, лічу правільным. Надышоў час не проста будаваць школы, магазіны, бальніцы, жыллё вяскоўцам, не проста ўзводзіць падобныя адзін на адзін, як блізняты, пасёлкі гарадскога тыпу, а дапаўняць прыроду архітэктурай, якая адпавядала б мясцоваму ландшафту, каб кожная вёска мела сваё аблічча, каб чалавек адчуваў тут сябе камфортна, ганарыўся сваёй малой радзімай і не хацелася б яму адсюль нікуды ехаць.

Стварыць жа новае аблічча вёскі трэба, на думку Жукоўскага, не традыцыйнымі, а новымі, больш выразнымі і эфектыўнымі будаўнічымі сродкамі. Іх арсенал пакуль надзвычай бедны. Што і казаць, цяпер цэгла, цэмент, дошкі — дэфіцыт. Але верыць Іван Іванавіч, што неўзабаве ў архітэктараў і будаўнікоў з'явіцца выбар будаўнічых матэрыялаў для стварэння сучаснага аблічча вёсак.

Першая работа Жукоўскага — арыгінальны праект дзіцячага сада. Там прадугледжаны ўсе ўмовы для поўнага і свабоднага развіцця дзяцей, а навакольная абстаноўка будзе садзейнічаць іх эстэтычнаму выхаванню. У перспектыве—узвядзенне прыгожага клуба на самым высокім месцы ў вёсцы Занарач—цэнтральнай сядзібе калгаса. Клуб, паводле задумы Жукоўскага, павінен задаваць тон архітэктуры ўсёй вёскі. У бліжэйшыя гады плануецца пабудаваць каля сотні дамоў-асабнякоў, іншыя аб'екты па арыгінальных праектах.

Л. ТУГАРЫН.

## ЯКІЯ МЫ ГАСПАДАРЫ





Шмат яшчэ недарэчнасцей у нашым жыцці. Адны з іх народжаны недасканаласцю існуючых законаў, іншыя раўнадушшам бюракратаў, агульнай безгаспадарчасцю. За прыкладамі, на жаль, далёка хадзіць не трэба. У Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці на вялізнай тэрыторыі праводзіцца меліярацыя забалочаных зямель. А паколькі балоты чаргуюцца з кустамі і пералескамі, то меліяратары перш-наперш пачынаюць «асушэнне» са знішчэння гэтых участкаў. Магутнай тэхнікай кусты, а там-сям і добры, амаль страявы лес зносяць у вялікія завалы, якія або застаюцца «помнікамі» безгаспадарчасці, або згараюць у полымі вогнішчаў. Між тым у Шацкім сельскім Савеце ляжыць не адзін дзесятак заяў ад мясцовых жыхароў на лесаматэрыялы, якія сталі сёння вялікім дэфіцытам. Вось і пастух саўгаса «Шацк» Мікалай Далідовіч, у якога пяцёра дзяцей, набыў за 3 тысячы рублёў старое падвор'е, а лес для яго рамонту вырашыў узяць там, дзе той усё роўна прападае. Але ляснічы Вецярэвіцкага лясніцтва, не доўга думаючы, склаў акт за самавольную парубку, па якому Далідовічу неабходна заплаціць амаль дзве тысячы рублёў штрафу. Вось так і спрацаваў дзікі прынцып безгаспадарчасці і бяздушша: «няхай згарыць, затое па закону, але не дастанецца людзям». Ці не лепш было б прадаць той лес людзям! У выйгрышы былі б усе: і меліяратары, і сяляне.

НА ЗДЫМКАХ: свінарка саўгаса «Шацк» Валянціна ДАЛІДОВІЧ з актам аб лесапарушэнні, які складзены на яе мужа; вось такія «пейзажы» пакідаюць на месцы былога лесу меліяратары.

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.

# ЦІ ЎБАЧЫМ АПОШНЯГА ПАПА?

[Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.].

чыняліся і былі перададзены ў карыстанне для сацыяльна-культурных ці гаспадарчых мэт.

І вось цяпер, калі мы назіраем бурны рост рэлігійных суполак, вярнуць ім цэрквы, касцёлы аказалася справай нянепростай. Чаму? Возьмем прыклад, што побач з намі, у Мінску. Вы, напэўна, бачылі, як вакол «чырвонага» касцёла ходзяць людзі з крыжам і свечкамі ў руках. Былі яны і ў нас — у Доме ўрада. Чаго патрабуюць? Вярнуць ім «чырвоны» касцёл. Але там — Дом кіно, і выселіць яго так знянацку няма куды. А калі каталіцкая суполка рэгістравалася, самі ж веруючыя папрасілі вярнуць ім кафедральны касцёл, што на плошчы Свабоды. Гарсавет даў згоду, хоць вырашыць гэтую праблему і нялёгка, паабяцаў да верасня наступнага года вызваліць будынак цалкам (да гэтага лета будзе вернута веруючым частка касцёла). Цяпер суполка агледзелася, што лепш займець «чырвоны» касцёл — тут менш работы, каб зрабіць яго прыдатным для рэлігійных абрадаў. Знайшліся напорыстыя людзі, падбухторваюць астатніх: паднаціснем — улады і здадуцца. Мінскі гарсавет вынес гэту праблему на абмеркаванне, запрасіў прадстаўнікоў таварыства, каб разам параіцца. Большасць нібыта і разумеюць меркаванні і клопат улад. А самыя нецярплівыя бачаць толькі свае і зноў выстаўляюць патрабаванні. Але ж тыя праблемы, што накапліваліся дзесяцігоддзямі і дасталіся нам, не вырашыць адным махам.

Да чаго можа прывесці такі націск, сведчыць гісторыя з івянецкім касцёлам. Там захоўвалася частка кніг бібліятэкі імя Леніна. Здаецца, больш чым 500 тысяч тамоў. Пад націскам веруючых міністр культуры даў згоду забраць адтуль кнігі. Але куды іх падзець? Сунулі ў падвал опернага тэатра. Летам, у час лівеяў, туды стала зацякаць вада, і кнігі гінуць!

— Невядома, што мы набываем, а што страчваем...

— Так-так, адны набываюць касцёл, другія трацяць сотні тамоў кніг. Але ж трацяць усе — і веруючыя, і няверуючыя.

— Вы ўжо гаварылі, Аляксей Іванавіч, пра нецярпімасць з боку веруючых. Гэта, мне здаецца, выдаткі той свабоды веравызнання, якую, нарэшце, займеў народ. Да гэтых выдаткаў, відаць, трэба аднесці і самавольны захоп суполкамі цэркваў?

— У такіх выпадках многае залежыць і ад кемлівасці мясцовых улад. Вось прыклад з Браслаўскага раёна. У вёсцы Опса арганізавалася афіцыйна каталіцкая суполка. Ёсць там і касцёл, у якім калгас адкрыў залу для выставак і канцэртаў. Таварыства зарэгістравалі, а касцёл не аддалі, рашылі перадаць у вёсцы Пеліканы, за 3 кіламетры ад Опсы. Вядома, і калгас можна зразумець: немалыя выдаткі на абсталяванне культурнага цэнтра, рабілася гэта для ўсіх. Але, мабыць, і веруючых нельга было пасылаць хадзіць на набажэнствы немаведама куды. Вось яны і занялі касцёл самавольна: у нас была свая парафія, свой касцёл. Чаго нам хадзіць да чужых? Улады яшчэ раз падумалі над становішчам і вырашылі: не ісці ж з дубінай супраць веруючых!

Аналагічная сітуацыя склалася мінулым летам і ў Гомелі з саборам Пятра і Паўла.

— Дарэчы, гэты храм вярнулі прыхаджанам пасля таго, як у «Голасе Радзімы» і іншых газетах быў надрукаваны зварот да першага сакратара ЦК КПБ Я. Сакалова групы відных дзеячаў культуры Беларусі і Саюза ССР. Значыць, зварот меў пэўнае ўздзеянне на рашэнне Гомельскага гарвыканкома?

— Безумоўна! Думка такіх славутых і кампетэнтных людзей не магла не быць рашаючай.

— Тады ці не здаецца вам, Аляксей Іванавіч, што ў ланцужку дзяржава — царква сярэдняе звяно — раённая, гарадская ўлада — найбольш заржавелае? Яно ўсё яшчэ трымаецца кансерватыўных поглядаў?

— Людзі ёсць людзі, і яны не адразу пазбаўляюцца ад старых схем і прынцыпаў. Першапачатковае рашэнне, якое прыняла сесія Гомельскага гарсавета, было адмоўным: патрабаванні веруючых вярнуць ім сабор — неабгрунтаваныя; у іх ёсць дзе маліцца. За гэта прагаласавала большасць дэпутатаў. Як я мяркую, да іншага рашэння Савет, улады горада тады проста яшчэ не былі гатовы. Ну, уявіце сабе іх разважанні: каб у цэнтры горада, ды яшчэ ў парку культуры і адпачынку, дзе пастаянна мнагалюдна, і сабор адчыніць?! Культура і рэлігія — ці ж гэта сумяшчальнае? Нават і думкі такой не дапусціць нельга! Бадай што, гэта і спрацавала. Быў сабор, потым з яго зрабілі планетарый, а цяпер перабудуем у арганную залу. Але каб вярнуць сабор тым, каму ён па праву належыць...

Тыя канфлікты, якія мне даводзіцца часта ўладжваць, нараджаюцца ад неразумення, у якім часе мы жывём, а значыць і негатоўнасці спакойна вырашаць іх. Тут праяўляецца як упартасць гаспадарнікаў, улад, так і адсутнасць жадання лічыцца з рэальнымі цяжкасцямі з боку веруючых. Да прыкладу, просяць мінчане вярнуць праваслаўнай суполцы Екацярынінскую царкву, але там архіў. Архіў вельмі каштоўны. І пакуль новы будынак пад яго нават не закладзены. Аднак пытанне гэта трэба неяк вырашаць. Не адразу, але трэба. Галоўнае — не даводзіць справу да кіпення неразумных эмоцый.

— Аляксей Іванавіч, вас не турбуе праблема кадраў?

— Турбуе, і яшчэ як! Імклівы рост рэлігійных таварыстваў намнога апярэдзіў магчымасці падрыхтоўкі духоўных кадраў. Тым больш, што семінарыі ў Беларусі не было.

— Але католікі вырашаюць гэту праблему вельмі проста. Яны запрашаюць у свае парафіі ксяндзоў з Польшчы. Як вы да гэтага ставіцеся?

— Мяне гэта вельмі непакоіць: мы не можам разглядаць каталіцкі касцёл у Беларусі як нейкі прыдатак зарубежнай царквы. На нашу думку, раз ужо ёсць каталіцкая епархія ў Беларусі, то біскуп, які пастаўлены Ватыканам на чале яе, павінен вырашаць свае праблемы напрамую, а не праз пасрэдніцтва польскага епіскапата ці якога іншага. Мы разумеем, што ў Беларусі ёсць частка насельніцтва польскага па нацыянальнасці. Але, па-першае, не ўсе палякі католікі, а па-другое, ёсць частка беларусаў католікаў. Польскія ж ксяндзы, якія прыязджаюць да нас па прыватных запрасінах і праведуць службу ў нашых касцёлах, паводзяць сябе не як госці: як кажуць, ідуць «у чужы манастыр са сваім уставам». Ёсць прыкрыя сведчанні, калі польскія ксяндзы лічаць, што ў Беларусі сярод католікаў павінны быць такія парадкі, як і ў Польшчы. Быў такі выпадак у Глыбокім. Запрасіла туды суполка ксяндза з Польшчы. Прыехаў, правёў першую службу і заявіў, што яму не патрэбны ні касцельны камітэт, як у нас прынята, ні рэвізійная камісія, ні казначэй. Буду сам вырашаць усе пытанні, ні з кім не раячыся. Самі веруючыя яму сказалі, што такі ксёндз, які будзе тут наладжваць свае парадкі, як некалі на «крэсах», ім не патрэбны.

Ёсць паасобныя ксяндзы, чыя дзейнасць выходзіць за рамкі душпастырства, рэлігіі, калі закранаецца палітычная арыентацыя грамадства, закранаюцца інтарэсы дзяржавы. Мы не маем юрыдычнай асновы для таго, каб вось так, явачным парадкам, запрашаць ксяндзоў на службу ў касцёле прыватным чынам. Я лічу, што нашы «кадравыя праблемы» мы павінны вырашаць самі.

— Напэўна, у гэтым вам дапаможа Закон аб свабодзе сумлення, які павінен быць прыняты Вярхоўным Саветам СССР. Што вы чакаеце ад яго?

— Закон будзе называцца: «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях». Я азнаёміўся ўжо з трыма варыянтамі праекта гэтага Закона. Мая думка: Закон добры. Ён улічвае і сучасны ўзровень развіцця права, і ўвогуле перабудовы дзяржаўна-царкоўных адносін, гуманізацыі нашага грамадства. Важна, што ён адпавядае і міжнароднаму праву. Вядома ж, мы чакаем ад яго многага. Тое законапалажэнне, што дзейнічае цяпер, у значнай меры ўстарэла, не адпавядае сучаснаму ўзроўню развіцця нашага грамадства.

У прыватнасці, пункт 10 гэтага палажэння сцвярджае, што рэлігійныя таварыствы абмяжоўваюць сваю дзейнасць выключна ўнутранымі, царкоўнымі справамі. Тым часам сёння мы вітаем дзейнасць царквы ў самых розных галінах чалавечага жыцця — міратворчасць, дабрачыннасць, удзел у рабоце Фонду культуры і да т. п.

У новым Законе ёсць такое палажэнне, як права юрыдычнай асобы. На мой погляд, гэта адзін з найважнейшых пунктаў. Тады многія нашы канфлікты будуць вырашацца проста ў адпаведнасці з законам, іх будзе разглядаць суд. І, як нейтральны орган, выносіць сваё рашэнне. Прадбачу, што закон створыць тую юрыдычную аснову, якая забяспечыць нармальную дзейнасць любой рэлігійнай канфесіі, нармальныя адносіны паміж дзяржавай і царквой.

Гутарку вёў **Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

## ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ

## РАСКАЗВАЕЦЦА НІБЫТА ПРА МЯНЕ

Паважаная рэдакцыя!

Маю надзею, што яшчэ не запозна адгукнуцца на «Вераснёўскі світанак» Я. Турайкевіча.

Нядаўна, атрымаўшы гэту кніжку, падзякаваў у думках вам ды Радзіме і паклаў яе на паліцу, каб прачытаць пасля. Але вось убачыў завіруху ў «Голасе Радзімы» за 21 снежня. Так што рашыў і я далучыцца да той завірухі.

Мушу прызнацца, што мяне здзівіў той факт, што можна столькі сканцэнтраваць у малой кніжачцы. Большасць людзей з Заходняй Беларусі, хто жыў у тыя часы, чытаючы гэту кніжку, могуць па справядлівасці сказаць: «сам усё перажыў» ці «сама перажыла». Што тычыцца тых, каму кніжка дае «нясмак», дык калі чалавек цягла трымае воцат у роце, улажыць туды мёду — і дасць яму «нясмак».

Ёсць толькі адзін прабел у гэтым, так сказаць, летапісе. Гэта тое, што час фашысцкай акупацыі не ўспамінаецца. Але ж каб яго ўспомніць, кніжка мусіла б быць непамерна большай. Нельга цаніць кніжку па якім-небудзь адным яе раздзеле. Першы раздзел афарбоўваецца апошнім, і, наадварот, тады, калі апошні раздзел нам дае канчатковыя вынікі. Нельга браць нешта негатыўнае з гісторыі краіны і цвярдзіць, што, маўляў, і краіна негатыўная. Тыя людзі, як я, быццам пазнаюць самі сябе ў гэтай кніжцы, пацвярджаюць тое, што яна дакладная.

Гэтая кніжка вельмі патрэбна, асабліва для тых, хто жыве на чужыне.

Вiншую аўтара і рэдакцыю, і вялікае дзякуй.

З павагай

**Мікалай ЯНУШЭВІЧ.**

Вялікабрытанія.

